Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 4 19—26 мая 1995 года ЦАНА 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

✓ НАВІНЫ РЭГІЁНА. СЕНСАЦЫІ

✓ ПРАГРАМА TV НА ТЫДЗЕНЬ

✓ РЭКЛАМА

ІНФАРМАЦЫЯ, ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ НА ТЫДЗЕНЬ, РЭКЛАМА І ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

**ПАДПІШАМСЯ НА «РЭГІЯНАЛЬНУЮ»!**

Працягваецца падпісная кампанія на «РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ» . На наша выданне можна падпісацца ў Маладзечне, Вілейцы, Смаргоні, Ашмянах, Мядзеле, Астраўцы і адпаведных раёнах Мінскай і Гродзенскай абласцей. На жаль, у Валожыне на «РГ» падпіска сарвалася па віне мясцовых сувязістаў. Пра гэта мы гаворым у адным з сённяшніх матэрыялаў. У Мінску газета ў наступным квартале будзе распаўсюджвацца толькі праз кіёскі «Белдруку». З чацвёртага ж квартала, калі «РЭГІЯНАЛЬНАЯ» будзе ўнесена ў рэспубліканскі падпісны каталог, выпісаць яе можна будзе і ў сталіцы.

**Падпісная цана на квартал—**

**5 тысяч рублёў**

Кожны тыдзень навіны нашага краю— у ваш дом!

## Хочаце дапамагаць? Займайце чаргу і плаціце нам пошліну.

## ...Французы нічога не зразумелі.

*Мы доўга дабіраліся да вас. Але яшчэ і вельмі доўга, каля 10 гадзін, нас трымалі на мытні, — адзначыў на сустрэчы з кіраўніцтвам горада Маладзечна Мішэль Фабр, які ўзначальваў прыбыўшую ў мінулую суботу групу валанцёраў з Францыі.*

Больш за 3 тысячы кіламетраў наматаў спідометр вялікагрузнага «Мерседэса», на якім у Маладзечна дастаўлены вельмі неабходныя лекі, вітаміны, медыцынская апаратура. Усяго каля 6,5 тон. Груз суправаджаў, акрамя Мішэля Фабра, і наш зямляк, а цяпер грамадзянін Францыі Аркадзь Шахаўскі. Па сутнасці, ён і быў ініцыятарам гэтага візіту. Летась А. Шахаўскі наведаў радзіму продкаў — горад Ваўкавыск, завітаў і ў Маладзечна, дзе цяпер пражываюць яго бацькі. Паабяцаў дапамагчы гораду медыкаментамі.

І вось невялікая група з Марселя, куды ўваходзілі і два вадзіцелі, бярэ адпачынак і накіроўваецца з дабрачыннай акцыяй у далёкую і малавядомую Беларусь. Паспяхова перадолелі сотні кіламетраў. А вось на мяжы Польшчы і Беларусі ім прыйшлося чакаць у агульнай доўгай калоне аўтамабіляў сваёй чаргі. Можна, хіба што, уявіць, наколькі французы былі здзіўлены такімі адносінамі да іх.

Але галоўнае выпрабаванне нерваў чакала іншаземцаў наперадзе. Беларускія мытнікі затрабавалі заплаціць пошліну. Не дапамаглі нават падрабязныя тлумачэнні і доказы, якія пацвярджалі, што гэта дабрачынны груз і ўвесь ён бясплатна перадаецца медыцынскім установам горада для патрэб хворых.

*Аддзел інфармацыі.*

**Мінск**

## Сістэма падаткаў будзе аптымізавана

***У рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» знаходзіцца пратакол нядаўняй нарады ў Прэм'ер-міністра РБ з кіраўнікамі міністэрстваў і прамысловых прадпрыемстваў.***

На нарадзе распрацаваны меры па рэгуляванню фінансавых адносін прадпрыемстваў. Згодна з імі плануецца дазволіць прадпрыемствам і арганізацыям адкрываць рахункі ў некалькіх камерцыйных банках. Часова, тэрмінам на тры месяцы, будзе адменены абавязковы продаж валютнай выручкі, уключаючы валюты краін СНД.

Адпаведным органам даручана падрыхтаваць праект указа Прэзідэнта па часовай адмене спагнання пяні за несвоечасовую ўплату падаткаў у бюджэт, змяненні парадку чаргавасці плацяжоў і ўключэнню амартызацыі асноўных фондаў у састаў матэрыяльных затрат.

На працягу месяца будзе распрацавана новая канцэпцыя аплаты працы ў прамысловасці, дзе за аснову бярэцца «пагадзінная» аплата.

Цяпер, магчыма, прадпрыемствы і арганізацыі змогуць прымаць праз касу замежную наяўную валюту за сваю прадукцыю і выкарыстоўваць яе на выплату работнікам.

Кабінет Міністраў палічыў мэтазгодным павялічыць на неацяпляльны сезон размер адлічэнняў на неадкладныя патрэбы да 15%.

Даручана Міністэрству фінансаў стварыць рабочую групу для распрацоўкі новай сістэмы падаткаабкладання з мэтай яе аптымізацыі.



**Разявы**

## У Вілейцы-самае таннае золата

***Рыта М. была прыемна ўражана тым, што хлопец, якога спасцігլі жыццёвыя цяжкасці, гатовы быў прадаць два залатых пярсцёнкі ўсяго за пяцьдзесят амерыканскіх долараў. Не кожны дзень такое выпадае.***

Ды і чалавека можна выручыць— яму тэрмінова трэба ехаць у Расію. Інакш бы і не шукаў спосабу пазбавіцца ад новых пярсцёнкаў, з якіх яшчэ нават біркі не паспеў зняць. Зайшоў у першую арганізацыю, што трапілася на шляху, дзе працуе Маргарыта. У той, праўда, зялёненькія былі схаваны дома пад падушкай, але незнаёмец тут жа выскачыў на вуліцу, каб знайсці таксі. Веры не дасце. У Вілейцы такое магчыма. Асабліва, калі трэба прадаць золата па цане медзі. Вось і таксоўка з вадзіцелем-незнаёмцам тут як тут.

Карацей, фініш вядомы. Плакалі Маргарыцыны даляры. Плакала й сама Рытачка. Муж толькі злаваўся, успамінаючы пра тое, што «ён ведае як грошы зарабіць, а яна ведае, як грошы патрацізь». Пярсцёнкі ж пацямнелі на другі дзень— ля золата яны нават і не ляжалі.

*Мікола ГАЙДУК*

## Слова Яўгеніі Іванаўны Аўсянікавай вартае нулю

***У мінулым нумары «Рэгіянальная газета» надрукавала падпісны абанемент, паведаміўшы сваім чытачам, што падпіска на «РГ» адкрыта ў шэрагу гарадоў і раёнаў, у тым ліку ў Валожынскім. І гэта сапраўды так. Дакладней, амаль так.***

Дагавор з Валожынскім раённым вузлом сувязі прадстаўніком «Рэгіянальнай газеты» быў падпісаны 5 мая. Вось толькі пячатку намеснік начальніка РВС Яўгенія Аўсянікава не змагла паставіць: надышоў час абеду. А пячатка была ў выконваючага абавязкі начальніка Валерыя Барадакі.

—Нічога, не хвалюйцеся,— запэўніла Яўгенія Іванаўна,— дагавор пячаткай заверым і дашлем вам. Патэлефануйце заўтра.

Назаўтра Яўгенія Іванаўна супакоіла:— Сёння рыхтуемся да свайго прафесійнага свята. А пасля выхадных атрымаеце дагавор. Слова даём.

Слова Яўгеніі Іванаўны аказалася вартым нулю. Дагавор «Рэгіянальная» так і не атрымала. А мы паверылі валожынскім сувязістам і паведамілі чытачам раёна, што на нашу газету яны могуць падпісацца без праблем. Цяпер жа пані Аўсянікава па тэлефоне спасылалася на тое, што «у вобласці нам не рэкамендавалі праводзіць падпіску на вашу газету, бо вы не ўключаны ў рэспубліканскі падпісны каталог».

Мы і не маглі быць уключаны ў рэспубліканскі каталог, бо зусім нядаўна атрымалі рэгістацыйнае пасведчанне Міністэрства культуры і друку. Менавіта таму і звярталіся напрамую ў раённыя вузлы сувязі з прапановамі заключыць непасрэдна з імі дагаворы на падпіску. І ўсюды знайшлі падтрымку і разуменне. Калі б у нас быў рэспубліканскі падпісны індэкс, мы б і не звярталіся ў раёны. У наступным квартале так і будзе.

Шкада толькі, што чытачы Валожыншчыны цяпер маюць усяго адну магчымасць аператыўна знаёміцца з навінамі нашага рэгёна— набываць «РГ» у кіёсках «Белдруку».

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ*

**Мядзельскі мерыдыян**

## ...А жыццё працягваецца

Цяпер усюды няпроста жыць. Аднак яшчэ з даўніх часоў у больш складаным становішчы аказваліся пасёлкі. Яно у нейкай меры і зразумела: і ні горад, і ні вёска. Жыллё нейкае тут калі і будавалі, то з вялікім скрыпам, прысядзібныя ўчастачкі — невялічкія. Атрымаць дзяржаўную кватэру і раней была справа малаверагодная, а зараз — і наогул нязбытная. Але ж жыццё не можа стаяць на месцы. Яно і вымусіла людзей актыўна ўзяцца за індывідуальнае будаўніцтва. Не выключэнне і Крывічы. У гэтым гарадскім пасёлку на сённяшні дзень у рознай стадыі будаўніцтва пяцьдзесят дамоў. З'явіліся дзве новыя вуліцы — Багдановіча, Школьная.

— Другая станоўчая тэндэнцыя, — расказвае старшыня выканкома Крывіцкага пасялковага Савета Аляксандр Камінскі, — імкненне людзей займець больш зямлі пад прысядзібныя ўчасткі. Мы ідзем ім насустрач. Калі раней на адну сям'ю ў нас прыпадала ў сярэднім сем сотак, то цяпер — трыццаць пяць. Толькі сёлета мясцовы калгас «Беларусь» выдзеліў пад прысядзібныя ўчасткі жыхарам пасёлка дваццаць два гектары зямлі.

А калі ў людзей ёсць дах над галавой, магчымасць вырошчваць для ўласных патрэб бульбу, гародніну і садавіну, трымаць нейкае свінчо, то і ў дзень заўтрашні яны глядзяць больш аптымістычна.

*Наш кар.*

Выбар зроблены

# Не дапамаглі і рэйтузы

***МЯДЗЕЛ. Тут у другі тур галасавання выйшлі два кіраўнікі гаспадарак — Казімір Гапановіч і Пётр Чарняўскі. Першы набраў 18,4 працэнта, а другі — 15,5 працэнта галасоў. Хто ж з іх найбольш аўтарытэтны?***

Пытанне гэта не такое і простае, як можа паказацца на першы погляд. На маю думку, найбольш аб'ектыўнай ацэнкай можна лічыць тую, якую паставілі гэтым кіраўнікам выбаршчыкі тых акруг, дзе яны непасрэдна працуюць, дзе іх лепш ведаюць людзі і па канкрэтных справах, і па ўчынках. Дык вось, за Казіміра Браніслававіча Гапановіча па Старлыгскаму выбарчаму ўчастку аддалі свае сімпатыі 69,1 працэнта ад прыняўшых удзел у галасаванні, а за Пятра Давыдавіча Чарняўскага па Сваткаўскаму і Вузлянскаму выбарчых участках — звыш 81 працэнта. Канешне, канчатковы вынік мы атрымаем толькі 28 мая, у дзень паўторных выбараў. А пакуль пажадаем абодвум кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета паспяховай і эфектыўнай работы сярод выбаршчыкаў.

Можна толькі дадаць, што ў час перадвырчай кампаніі не абыйшлося і без кур'ёзаў. Так, пасля адной з сустрэч з кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэгінай Давідовіч, жанчынам раздавалі бясплатна, прабачце мяне, рэйтузы. Кажуць, усім не дасталося. Каму не хапіла, «паабяцалі» на выбары не прыйсці. Як бы там ні было, але гэта, скажам прама, «тапорная аперацыя», як сведчыць першы тур галасавання, жадаемага выніку не прынесла.

Што ж датычыцца саміх выбараў, то яны прайшлі даволі арганізавана, пры высокай актыўнасці людзей. У іх прынялі ўдзел 79,5 працэнта выбаршчыкаў. Па Бальнічнаму ўчастку гэты паказчык наогул складае сто, а па Занеўскаму, Сваткаўскаму і Старлыгскаму перавышае дзевяноста шэсць працэнтаў.

З нецярпеннем чакалі жыхары азёрнага краю і вынікаў рэферэндуму. Яны не былі нечаканымі. Большасць выбаршчыкаў падтрымала прэзідэнта па ўсіх чатырох пытаннях. Аднак іх працэнт некалькі ніжэйшы, чым у сярэднім па рэспубліцы. Так, за наданне рускай мове роўнага статусу з беларускай выказалася 72,5 працэнта выбаршчыкаў; за ўстанаўленне новых сцяга і герба — 66, за эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй — 75 і за права прэзідэнту датэрмінова спыняць паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета — 72,8 працэнта.

***Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.***

Мінскіх (і не толькі!) жанчын зацікавілі нашы хлопцы

***МІНСК. У цэнтры ўвагі былі на выстаўцы «Свет сучаснай жанчыны» прадстаўнікі маладзечанскай фірмы «Спутнік» (не блытайце з аднайменным радыёзаводам).*** Фірма, якая спецыялізуецца на зборцы і гандлі якаснай камп'ютэрнай тэхнікі, прадставіла на выстаўцы ў Палацы спорту сваю прадукцыю і прадукцыю вядучых фірм сусвету па даволі танных цэнах. Маладзечанцы прапаноўвалі камп'ютэры і перыферыю да іх, множальную тэхніку, калькулятары і шмат з таго, што аблягчае працу жанчын у офісе. Увага гэта працягвалася чатыры дні. І недарэмна. «Спутнік» атрымаў шэраг цікавых прапаноў.

***Аддзел інфармацыі***

Думка кандыдата

# Большасць вілейчан прагаласавала за гаспадарніка

**Генеральны дырэктар акцыянернага таварыства «Інтэрмаркет» Уладзімір Варашнін лідыруе ў выбарным марафоне ў Вілейцы. Наш карэспандэнт Ігар Леўчанка сустрэўся з кандыдатам і задаў яму пытанне.**

***— Ваш выхад у другі тур выбараў дае падставу спадзявацца, што ў вілейчан з'явіўся рэальны шанц выбраць у Вярхоўны Савет чалавека справы. Як бы вы прааналізавалі вынікі галасавання?***

— Я шчыра дзякую ўсім тым, хто паверыў мне, аддаў за мяне свае галасы. Гэтыя давер і падтрымка — самае каштоўнае з таго, што ў мяне ёсць. Я паважаю выбар тых, хто галасаваў за маіх апанентаў — нічога дрэннага пра маіх сапернікаў сказаць не магу і не хачу. Вынікі ж першага туру сведчаць аб галоўным — людзі давяраюць справам, а не словам. Для мяне гэта ёсць асноўны вынік выбараў. Я заўсёды і паўсюдна заўзята спрачаўся з тымі, хто адмаўляе нашаму народу ў мудрасці, разважлівасці... Мая пазіцыя ўсё жыццё была цвёрдай і нязменнай: народ наш дастаткова мудры і дасведчаны, каб самастойна прыняць правільнае рашэнне... Галоўнае — даць яму гэту магчымасць, а не прымушаць жыць па ўказцы. Я рады, што вілейчане пачынаюць разумець — не ўсё так безнадзейна, ёсць магчымасці, ёсць сродкі каб узняць эканоміку ў гэтым рэгіёне, пачаць яго парадкаваць.

Уласна, мая праграма і складалася з шэрагу канкрэтных прапаноў і праектаў, якія мы сумесна ў самы блізкі час маглі б рэалізоўваць на Вілейшчыне. І дзякуй богу, што гэта праграма атрымала падтрымку. Даўно перакананы: доўгія праграмы, балбатня палітыкаў, розныя там партыі толку многа не даюць. Словы, словы, словы... А час і справы рабіць. Гэта разумеюць і выбаршчыкі. Таму я нікольні не сумняваюся ў сваёй перамозе, у тым, што вілейчане падтрымаюць і ў другім туры.

Я ўдзячны вілейчанам, тым больш, што многім давялося адарвацца ад пасяўной.

Незалежна ад вынікаў выбараў я бачу вілейскі рэгіён даволі перспектыўным з эканамічнага пункту гледжання і ўжо ў самы блізкі час адкрываю ў Вілейцы сваё прадстаўніцтва, якое сумесна з мясцовымі прыватнымі і дзяржаўнымі структурамі будзе вырашаць канкрэтныя праблемы Вілейшчыны. Аб гэтым я гаварыў у сваёй праграме і слова трымаю. Карыстаючыся выпадкам, скажу: усё, што я планую, буду рабіць. Хопіць дэпутатам хавацца ад сваіх выбаршчыкаў.

# «Чорны аўторак» па-маладзечанску

***Яшчэ з суботы на маладзечанскім гарадскім рынку пачалася паніка ў сувязі з павышэннем наяўнага курсу долара. Хто і якім чынам сумеў арганізаваць гэтую кампанію невядома. Але ў нядзелю долар падскочыў ужо да 15 тысяч.***

У панядзелак па гэтай цане прадавалі «зялёныя» усе пункты абмену валюты мясцовых банкаў. Нямецкую марку прапаноўвалі за 9900 рублёў.

Такое становішча вызвала ажыятаж сярод тых, хто трымае свае зберажэнні на дэпазітах у банках. У панядзелак і аўторак укладчыкі патрабавалі свае грошы назад. Відаць, з мэтай набыцця валюты. Але ўжо пасля абеду ў аўторак курсы наяўных валют зноў упалі.

***Аддзел інфармацыі.***

Смаргонь

## Камерцыяй — па бабульках!

***Усе ведаюць, з грамадскім транспартам у нас толькі адны праблемы. У новых рынкавых умовах простым людзям, хто не мае ўласнага аўто, прыходзіцца больш спадзявацца на свае ногі, чым на аўтобус.***

Асабліва дастаецца сельскім жыхарам. Многія рэйсы адменены. З-за іх нерэнтабельнасці. Але на найбольш перагружаных мясцовыя ўлады дазволілі ўвесці так званыя камерцыйныя.

Вось, напрыклад, адзін з самых людных маршрутаў Смаргонь—Жодзішкі. Толькі чатыры дні на тыдзень раніцай і вечарам курсіруе аўтобус, дзе пасажыры абслугоўваюцца па зацверджаных тарыфах. У астатнія ж дні, з пятніцы па нядзелю, — рэйсы камерцыйныя. Інакш кажучы, за білет трэба плаціць больш чым у два разы даражэй.

Прычым, ад уплаты не вызваляюцца і пенсіянеры.

***Міраслаў ГРОМ.***

Анонс

## У Маладзечне на танцы хадзіў Станіслаў Багданкевіч

Аб маладзечанскім перыядзе жыцця галоўнага банкіра краіны чытайце ў наступным нумары гутарку нашага карэспандэнта з сябрам Багданкевіча.

Міністр заклапочаны «Зенітам». І думае яму дапамагчы

***ВІЛЕЙКА. 16 мая міністр прамысловасці Беларусі Уладзімір Куранкоў наведаў буйнейшае прадпрыемства горада.***

Азнаёміўшыся з шэрагам праблем вытворчасці, фінансавай сферы, цеплазабеспячэння завода і горада, міністр плануе дапамагчы «Зеніту». Дзеля гэтага ўрад мае намер падрыхтаваць спецыяльную пастанову.

***Аддзел інфармацыі***

Рэлігія, мова і мы

# «Ты апора, ты маціца»

***Касцёл, які дзейнічае ў вёсцы Вішнева, што на Валожыншчыне, вядомы не толькі ў сваёй парафіі, але і далёка за яе межамі. Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ўжо колькі гадоў вядзе ў ім богаслужэнне на беларускай мове.***

Такім чынам рэлігійная ўстанова стала месцам, дзе прапаведуецца а не толькі любоў да Бога, але і да роднага слова. Ураджваюць і рэлігійныя песні, якія па нядзелях спяваюць тут у час службы юныя выхаванцы Валожынскай спецшколы-інтэрната. Вялікі энтузіаст, шчырая беларуска ў лепшым сэнсе гэтага слова, таленавіты педагог і музычны кіраўнік Марыя Іосіфаўна ТРАПАШКА перакананa, што гэтыя святыя нядзелі дабратворна дзейнічаюць на яе выхаванцаў, што духоўная музыка ўзбагачае іх душу. Дарэчы, многія творы настаўніца сама пераклала з польскай на беларускую мову. Ствараe яна і музыку для дзіцячых песень. Ноты і словы дзвюх, складзеных у сааўтарстве з настаўніцай Адамоўскай няпоўнай школы Фаінай Іосіфаўнай Драгун нядаўна былі надрукаваны ў «Настаўніцкай газеце». «Ты апора, ты маціца» — такую назву носіць адна з гэтых песень, якая прысвечана роднай мове.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

Трагедыі

## Падвяла хуткасць!

***У мінулую нядзелю, недзе ля трынаццаці гадзін, на дарозе Мінск—Нарач, непадалёку ад курортнага пасёлка, адбылася жудасная аўтамабільная аварыя.***

Вынікі яе трагічныя. Маладыя жыхары вёскі Нарач Генадзь Тамашэвіч і Валянцін Янкоўскі загінулі на месцы здарэння, а Мікалай Марэцкі з цяжкімі траўмамі дастаўлены ў бальніцу. Як паведамілі супрацоўнікі ДАІ, асноўная прычына аварыі — язда на іншамарцы з вялікай хуткасцю, ад якой пасля наезду на прыдарожнае дрэва мала што засталося.

***Наш кар.***

Крымінал

## Газеты злодзея не цікавілі

***Больш года таму на кіёсках Белдруку ў Маладзечне з'явіліся жалезныя рашоткі: іншай абароны ад злодзеяў і хуліганаў не было. Адзін жа з кіёскаў, які знаходзіцца на пероне чыгуначнага вакзала, заставаўся неўмацаваным.***

Месца людное, ды і работнікі лінейнага аддзялення міліцыі на чыгунцы пастаянна там патрулююць. І ўсё ж смяльчак знайшоўся. Выбіўшы шкло, злодзей залез у кіёск, напакаваў дзве сумкі тавараў больш чым на два мільёны рублёў (не сакрэт, што кіёскі Белдруку гандлююць цяпер не толькі газетамі і часопісамі) і рэціраваўся.

Аднак адчуць сябе разбагацеўшым яму не ўдалося. Не паспеў ён далёка адыйсці, як супрацоўнікі лінейнага аддзялення міліцыі А. Голуб і А. Богдан злавілі яго з доказамі злачынства.

## У пажарных лесвіцы не знайшлося

***Выбух тэлевізара паслужыў прычынай пажару ў аднапакаёвай кватэры 9-павярховага дома, што па вул. Міра ў Маладзечне.***

Поўнасцю выгарала кватэра, знішчаны агнём усе пажыткі гаспадыні Г. А. Міхайлоўскай. Пажарныя прыехалі хутка пасля выкліку, аднак у іх не аказалася лесвіцы, каб забрацца на шосты паверх. Пакуль яе даставілі, заставалася толькі прымаць меры, каб праз балкон полымя не перакінулася на сёмы паверх, а не ратаваць маёмасць пацярпеўшай.

Старая, хворая жанчына засталася без усялякіх сродкаў на існаванне. Каб неяк падтрымаць яе, суседзі прынеслі ў мясцовую газету заклік да ўсіх міласэрных людзей аб дапамозе.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

# ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

◆ПРАДАЮЦЦА персідскія кацяняты з радаслоўнай ад бацькоў-чэмпіёнаў. Бацька — экстрэмал. Тэл. у Маладзечне 6-69-51.

◆ПРАДАМ прыватызаваную двухпакаёвую кватэру ў г.п. Шаркаўшчына Віцебскай вобласці. Тэл. у Маладзечне 5-22-26.

◆КУПЛЮ аўтамабіль да 800 долараў. ПРАДАМ нядорага халадзільнік «Снайге-12», заячы паўкажушок. Тэл. у Маладзечне 6-08-53 пасля 19.00.

◆ПРАДАМ а/м «Ока» 92 г.в., прабег 31 тыс. км за 1600 долараў. Тэл. у Маладзечне 6-39-80.

◆ПРАДАМ карову. Тэл. ў г.п. Радашкавічы Маладзечанскага раёна 9-55-94.

◆МЯНЯЮ двухпакаёвую кватэру ў Валожыне (31 кв. м) на аднапакаёвую ў Маладзечне, або ПРАДАМ. Тэл. у Маладзечне 6-69-51.

◆ПРАДАМ ВАЗ-2103, ВАЗ-2101, ГАЗ-53 (дызель), стол пісьмовы, трэльяж. Магчымы бартэр. КУПЛЮ цэглу. Тэл. у Маладзечне 6-37-61.

◆КУПЛЮ манеты былога СССР 1958 г.в. Тэл. у Маладзечне 7-65-28 (Андрэй).

◆ПРАДАМ бензапілу «Тайга» і электрапілу «Парма». Тэл. у Мінску 27-78-07.

◆ПРАДАМ новыя рухавікі да матацыклаў «Ява-634» 6 вольт за 180 долараў, «Восход» 12 вольт за 90 долараў, чатырохдзверную шафу з антрэсолямі светлую за 100 долараў, каня (трэці год) за 700 долараў. Тэл. у Маладзечне 6-37-61.

◆ПРАДАМ новы настольна-свідравальны станок СУС-12 (дыяметр свярлення — 12 мм (18 мм). Тэл. у Маладзечне 6-60-22.

◆ПРАДАМ клавішы «Ямаха» ПСС-680. Кошт да 150 долараў. Тэл. у Вілейцы 5-38-52.

◆ПРАДАМ гараж у г. Заслаўе за 1500 долараў. Тэл. у Мядзеле 55-7-51 (дам.), 55-8-30 (раб.).

◆ПРАДАМ нямецкі акардэон б/у у добрым стане за 120 долараў. Тэл. у Вілейцы 5-71-34.

◆ПРАДАМ новы стэрэакомплекс «PANASONIC» з прайгравальнікам кампактдыскаў і пультам дыстанцыйнага кіравання. Тэл. у Маладзечне 5-39-79.

◆Муж і жонка ШУКАЮЦЬ РАБОТУ гувернёра, рэпетытара, перакладчыка (гарманічнае развіццё вашага дзіцяці: музыка + беларуская, англійская, балгарская мовы). Тэл. у Мінску 45-57-28.

◆КУПЛЮ узмацняльнік і калонкі па памяркоўных цэнах для клавішнага інструмента. Тэл. у Вілейцы 5-38-52.

◆ПРАПАНУЮ дзелавое супрацоўніцтва ўладальнікам камерцыйных магазінаў, кіёскаў. Тэл. у Мінску 32-65-26.

◆10-дзённы курс «Исцели себя сам». Лячэнне многіх захворванняў. Нядорага. Літаратура. Тэл. у Мінску 27-17-60.

◆ПРАДАМ шыфер васьміхвалевы, цэмент у мяшках М-400. Тэл. у Вілейцы 5-62-30.

◆ПРАДАМ зруб 5х6 + вылет на веранду 6х3 з балкамі і страпіламі за 500 долараў. Тэл. у Вілейцы 5-53-04.

◆ПАД ЗАКАЗ аўтамабільная фарба (МЛ-12) любога колеру. Магчыма дастаўка. Тэл. у Вілейцы 5-86-54, 5-82-13 (у рабочы час); 5-70-27 (вечарам).

◆ПРАДАМ дачу ў в. Ласі. Новая, рубленая, 6 сотак, пладовыя дрэвы, ягадныя кусты. Тэл. у Маладзечне 6-14-86.

◆МЯНЯЮ дом з гаспадарчымі пабудовамі, сад, участак у Старадарожскім раёне на жыллё ў Мінску, Маладзечне, Старых Дарогах, Валожыне, Вілейцы. Тэл. у Маладзечне 6-62-07.

◆Клуб «Фауна» ПРАПАНУЕ шчанят рызеншнауцэра з радаслоўнай. Тэл. у Маладзечне 5-43-11.

◆ПРАДАМ гадавалага жарабца. Тэл. у Мядзеле 5-56-55 (рабочы), 5-48-37 (пасля 18.00).

◆ПРАДАМ месца пад гараж для грузавіка ў Маладзечне ў раёне «Гарпаліва» за пераездам. Тэл. у Маладзечне 5-17-50.

◆ПРАДАМ гаражы ў кааперативе N 5 у Маладзечне (раён в. Насілава) за 1100 і 800 долараў. Тэл. 7-16-61 (рабочы), 3-21-67.

◆ПРАДАЮ пастаянна тавары для камерцыйных магазінаў, кіёскаў. Тэл. у Мінску (0172) 32-65-26.

◆ПРАДАМ дом у цэнтры Вілейкі. Тэл. у Вілейцы 63-2-57.

◆ПРАПАНУЮ работу дзяўчыне да 20 год з творчым падыходам да працы і бухгалтарскімі ведамі. Анкету і тэл. ці адрас прысылаць: 220089 Мінск-89, а/с 100.

◆ПРАДАМ аўтамабіль «Аудзі-80» 1980 г.в. у добрым стане, без прабегу ў РБ. Тэл. у Вілейцы 5-75-22.

◆ПРАДАМ аднапакаёвую кватэру нядорага. Тэл. у Вілейцы 5-85-61.

◆ПРАДАМ дом у Вілейцы (4 пакоі, водаправод, гараж, хлеў, часовае збудаванне, участак 10 сотак). Тэл. у Вілейцы 7-33-00.

◆ПРАДАЕЦЦА конь. Тэл. у Вілейцы 5-74-25 пасля 19.00 акрамя выхадных.

◆ПРАДАМ дом у Вілейцы (водаправод, паравое ацяпленне, участак 10 сотак). Тэл. у Вілейцы 5-50-75.

◆ПРАДАМ аднапакаёвую кватэру ў Вілейцы. Тэл. у Вілейцы 5-36-00.

◆ПРАДАМ 4-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, 2 паверх, тэлефон, 2 лоджыі. Тэл. у Маладзечне 6-14-62.

◆ПРАДАМ аўтамабілі "Волга-ГАЗ-24" (бензін) і "Фольксваген-Пассат" (дызель). Тэл. у Маладзечне 5-39-69.

## КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў

*Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607 або прынясіце ў рэдакцыю.*

**Тэкст аб'явы і тэлефон (адрас) для друку:**

______________________________

______________________________

______________________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна
Маладзечна— 01773, Вілейка— 01771, Смаргонь— 01592, Ашмяны— 01593, Валожын— 01772, Мядзел— 01797, Астравец— 01591, Мінск— 0172

**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА N4; 19.05.95-26.05.95**
**Заснавальнікі:** рэдактарат, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт».
**Пасведчанне** N1091.
**Выдавец:** рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты»
**Рэдактар:** Аляксандр МАНЦЭВІЧ
**Выканаўчы дырэктар:** Ігар ВЕЙС, прадстаўнік ЗАТ «Інтэрмаркет» у Вілейцы
Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж** 10000 экз.
**Цана 200 рублёў.**
**АДРАС ДЛЯ ПІСЬМАЎ: 222310, Маладзечна-7, а/с 1607**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 222310, Маладзечна, вул. Хмяльніцкага, 22, фірма «Фаварыт», «РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА»
**ТЭЛЕФОНЫ:**
у Маладзечне 52953
у Вілейцы 56225
у Мядзеле 55337
**ФАКС:**
у Вілейцы 58622
**РЭКЛАМА**
Базавая стаўка 7500 рулёў за 1 кв. см. Прадугледжана сістэма скідак. Расцэнкі сапраўдныя да 1 чэрвеня 1995 года. Разліковы рахунак N 468704 ФАКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Рэдакцыя можа публікаваць матэрыялы, якія адлюстроўваюць толькі пазіцыю іх аўтараў, у парадку абмеркавання. Перадрук— толькі са спасылкай на «Рэгіянальную газету». Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных аб'яў.
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11
**Заказ N** 609.
Падпісана ў друк 18.05.95